ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE $ 1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

ГОД XXVII, № 245 New York, September — Верасень 1977 Vol. XXVII, № 245

## НАПЯРЭДАДНІ ВЯЛІКІХ ЮБІЛЕЯЎ

Беларуская палітычная эміграцыя ў Вольным Сьвеце сяньня знаходзіцца напярэдадні двух вялікіх нацыянальных ябілеяў: 60-ых угодкаў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, што прыпадаюць на канец сёлетняга году, і 60-ых угодкаў абвешчаньня вольнай і незалежнай беларускай дзяржавы Актам 25 Сакавіка — на пачатку году наступнага. Абедзьве гэтыя падзеі становяць у навейшай гісторыі Беларусі вельмі важныя этапы нацыянальна-вызвольнага змаганьня, трапна называнага Нацыянальнай Рэвалюцыяй Беларускага Народу.

Абодвы нашыя нацыянальныя юбілеі гэтым разам зьбягаюцца ў часе з 60-мі ўгодкамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, што шумна адзначаюцца на працягу ўсяго сёлетняга году ў цэлым Савецкім Саюзе, а 7-га лістапада, у дзень выбуху гэтае рэвалюцыі, маюць быць адзначаныя заваршальнымі ўрачыстасьцямі. У вадрозьненьне ад Беларускай Нацыянальнай Рэвалюцыі, што несла Беларускаму народу свабоднае й незалежнае дзяржаўнае жыцьцё, Кастрычніцкая рэвалюцыя замацавала паняволеньне Беларускага народу, накінутае фізычнай сілай царскай Расеяй напрыканцы XVIII стагодзьдзя. Затое Беларуская Нацыянальная Рэвалюцыя была выяўленьнем волі й запаветных імкненьняў Беларускага народу. Канчальнаю мэтаю Беларускае Нацыянальнае Рэвалюцыі было поўнае аддзяленьне ад Расеі й адбудаваньне незалежнае беларускае дэмакратычнае дзяржаўнасьці на ўсёй этнаграфічнай тэрыторыі Беларусі. Адбудаваньне тае дзяржаўнасьці, што ў сівую даўніну зьзяла зыркім блескам у форме Палацкага Княства, а ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага тварыла найвялікшую палітычную, культурную й ваенную сілу на цэлым Усходзе Эўропы. Найвялікшы беларускі пясьняр, ідэалёг беларускага нацыянальнага адраджэньня, а пазьней — Беларускай Нацыянальнай Рэвалюцыі Янка Купала яшчэ ў пэрыядзе нашаніўскім у сваім цудоўным вершы „Над Нёманам", сяньня забароненым савецкай цэнзурай, пра абедзьве гэныя формы старой беларускай дзяржаўнасьці пісаў:

Буйным жыцьцём усё чыста кіпела,
Слава далёка за мора ішла.
Ворага кожны за плечы браў
сьмела,
Цемра чужынцаў ня страшнай
была.
Панам быў дома і слаўным за
домам
Мой патаптаны сягоньня народ;
Змог ён ня толькі знаць штукі
з заломам, —
Роднаму слову ўмеў кніжны даць
ход.
З вольнай дружынаю князь на
пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а князь што ня
ўладзіў —
Слухаў, што веча яму звон казаў.
. . . . . . . . . . . . . . .
Так, так, мой дружа, іначай
бывала, —
Не называўся забытым мой край;
„Поўнач" нязраз у ім схову шукала,
„Захад" знаў сілу яго неўнарай.

Зусім прыродна й мэтазгодна, што юбілейныя нашыя сьвяткаваньні 60-ых угодкаў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й 60-ых угодкаў 25 Сакавіка ў наступным годзе павінны адзначацца асабліва ўрачыста, масава й зьмястоўна зь ідэйнага гледзішча. Яны павінны выліцца ў магутнае маніфэставаньне нашае нацыянальнае ідэі — з аднаго боку, а з боку другога — яны павінны прагучэць гнеўным пратэстам супраць усіх народных крыўдаў, што прынесла Кастрычніцкая рэвалюцыя ды што пад лёзунгамі гэтае рэвалюцыі робяцца аж да самага апошняга часу.

Творцы, правадыры, удзельнікі й спадкаемнікі Беларускай Нацыянальнай Рэвалюцыі разглядалі Кастрычніцкую рэвалюцыю й бальшавізм, як чужыя й варожыя Беларускаму народу зьявы, прынесеныя на Беларусь супраць народнае волі чырвонай арміяй і замацаваныя ейнымі штыкамі. Гэта, дарэчы, прызнаюць і партыйныя гісторыкі. Чужацкае паходжаньне Кастрычніка на Беларусі вымоўна пацьвердзілі найвялікшыя нашыя нацыянальныя паэты ў сваіх творах 1917-1922 гадоў Янка Купала, Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля, Алесь Гарун ды пісьменьнік Максім Гарэцкі. Гэтак, прыкладам, у сваім вершы 1921 году „Беларускаму люду", войстра пратэстуючы супраць Рыскага падзелу Беларусі, дакананага бальшавікамі й Палякамі, Якуб Колас пісаў:

Сьціхні ты, змоўкні, песьня пакуты,
Заварушыся наш край!
Люд беларускі, рві свае путы,
Новую песьню сьпявай!

Хіба забудзем мы тыя межы,
Што правадзілі бяз нас?
Раны глыбокі, ох, яшчэ сьвежы
Помсты агонь не пагас.

Нас падзялілі! — Хто? Чужаніцы!
Цёмных дарог махляры,
К чорту іх межы, к д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Будзем мы самі гаспадарамі,
Будзем свой скарб ратаваць.
Годзе тэй крыўды! Ў ногу з братамі
Пойдзем свой край вызваляць!

Як бачым, паэта ня вызнае й кліча народ ня вызнаваць сувэрэнітэту над Беларусяй спраўцаў Рыскага падзелу яе — бальшавікоў і Палякаў. Пры гэтым, паэта ня робіць ніякай розьніцы між абодвымі акупантамі ў спрычыненым імі Беларускаму народу гвалце. І адныя, і другія тыя-ж самыя „чужаніцы" й такія-ж „цёмных дарог махляры". Якуб Колас не абмежыўся тут адно голасам пратэсту й асуджэньня спраўцаў Рыскага падзелу Беларусі, але й заклікаў народ падняцца на Нацыянальную Рэвалюцыю — „свой край вызваляць!"

Магутны супраціў Кастрычніцкай рэвалюцыі й бальшавізму пацьвердзілі моваю зброі антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі, што ахапілі сваім пажарам амаль увесь край, а найвышэйшым іхным вычынам было слаўнае Слуцкае паўстаньне напрыканцы 1920 году, канкрэтнаю мэтаю якога была абарона й умацаваньне Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанае 25 сакавіка 1918 году.

Пастановы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу й Акту 25 Сакавіка, хоць і былі пагвалчаныя перавагаю фізычнае сілы ворага, засталіся, аднак, запаветнай ідэяй Беларускага народу. У непахіснай вернасьці гэтай ідэі праявілася духовая моц народу й ягоная жыцьцядайная творчая патэнцыя. Гэтыя духовыя якасьці народу на працягу ўсяе 60-цігадовае гісторыі, хоць ціраз былі выстаўляныя на цяжкія выпрабаваньні, ніколі, аднак, не занікалі.

Калі на 10-ыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі ў 1927 годзе савецкая прапаганда шырака падчырквала ўяўныя дасягненьні Кастрычніка на Беларусі, лепшыя беларускія паэты й пісьменьнікі ацанілі гэныя дасягненьні, як клясычны „дар Данайцаў". Гэтак беларускі падсавецкі паэта Максім Лужанін у вадным сваім вершы 1927 году на 10-ыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі пісаў:

Кожны дзень прыходзіць
расьцьвітаць,
Каб памерці потым за гарамі;
Мы ня хочам радасьці вітаць,
Што чужымі дадзена рукамі.

Гэная „радасьць", „чужымі дадзена рукамі", прынесла Беларускаму народу не натаванае ў ягонай гісторыі гора: фізычнае вынішчэньне міліёнаў людзей, духовае нявольніцтва, матарыяльную галіту, калгасны прыгон і раскулачваньне, сацыялістычнае спаборніцтва, каляніяльную эканамічную эксплятацыю краю, а наўзьверх усяго — шалёную русыфікацыю: моўную, культурную й псыхалягічную.

Іншы беларускі паэта Язэп Пушча ў сваіх творах другое палавіны 20-ых гадоў асэнсоўваў Беларусь, як укрыжаваную бальшавікамі:

На ростані ўсходня-заходніх дарог
Цябе, дарагая, яны ўкрыжавалі, —
скардзіўся паэта ў сваім вершы 1927 году „На ростані". А ў вершы таго-ж году „Асеньнія песьні" пісаў:

Хто з крыжа краіну расьпятую
здыме? —
Ўзываю, малюся ў грэшнай істоце.

Абодвы гэтыя вершы былі гнеўнай рэакцыяй на 10-ыя ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі, з прычыны якое, як сказаў ён у тым-жа вершы „Асеньнія песьні",

Беларусь краіна найміцай
астатняй, —
Ў апранасе рванай днём і ноччу
хмарнай.

Падобныя думкі выказаў Язэп Пушча ў вершы „Лісты да сабакі", а ў паэме 1928 году „Цень Консула", пад першымі літарамі загалоўку якога зашыфраваў ён ЦК Камуністычнай партыі, асэнсаваў тагачасную Беларусь, як чужацкую калёнію.

На 50-ыя ўгодкі стварэньня ў 1922 годзе Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублікаў маскоўскі акупант „ушчасьлівіў" паняволеныя ім народы новым кастрычніцкім „падаркам". У пастанове ЦК КПСС „Аб падрыхтоўцы да 50-годзьдзя ўтварэньня Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік", апублікаванай у лютым 1972 году, упяршыню афіцыйна было асьветчана: **„За гады будаўніцтва сацыялізму й камунізму ў СССР узьнікла новая гістарычная агульнасьць людзей — савецкі народ".**

Гэты „савецкі народ", без напамміну пра які не абыходзіцца ніводная савецкая ўрачыстасьць і пад лёзунгам якога праводзяцца сёлетнія кастрычніцкія ўгодкі, у запраўднасьці пустая фікцыя. Тым ня менш, намаганьні ўтварэньня гэтае фікцыі — зьява рэальная. Яна выяўляецца ў больш безаглядным і прысьпешаным тэмпе русыфікацыі й прышчэпліваньні нерасейскім народам пад прыкрыцьцём пралетарскага інтэрнацыяналізму тыповых нацыянальных асаблівасьцяў расейскага народу. З другога боку, гэтая тэндэнцыя ськіраваная на адмаўленьне нерасейскім народам іхнае нацыянальнае самабытнасьці й апрычонасьці пад прыкрыцьцём змаганьня з буржуазным нацыяналізмам.

У змаганьні за сваю нацыянальную існасьць Беларускі народ бясспрэчна мае вялізарныя страты. Гэткая ўжо доля паняволеных народаў. Тым ня менш, Беларускі народ, асабліва ягоная нацыянальная інтэлігенцыя пад цяжарам жахлівае расейска-бальшавіцкае няволі не заламаліся. Не зважаючы на самы вырафінаваны русыфікацыйны шал, Беларускі народ выяўляў заўсёды й выяўляе цяпер свае чыста нацыянальныя якасьці ды вядзе сыстэматычную абарону перад усякімі формамі русыфікацыі. Канкрэтных прыкладаў гэтае зьявы прыводзіць тут ня будзем. Гэта заняло-б вельмі шмат месца, тым больш, што яны й так добра ведамыя хоць-бы з газэты „Беларус". Матарыялы, друкаваныя ў „Беларусе", усё-ж рэкамэндуем выкарыстоўваць у ладжаньні абодвых нашых нацыянальных юбілеяў.

Якія-ж абавязкі й заданьні ўскладае на нас, палітычных эмігрантаў, гісторыя ў вабліччы падзеяў на Бацькаўшчыне? Было-б найвялікшым праступкам, калі-б мы абмежыліся адно да пасыўнага назіраньня ўсяго таго, што дзеіцца на Бацькаўшчыне. А яшчэ было-б горш, калі-б мы не праяўлялі наагул ніякае цікавасьці да сяньняшняе долі Беларускага народу. Свае абавязкі палітычных эмігрантаў зможам выканаць адно тады, калі актыўна, кажны паводля сваіх здольнасьцяў і магчымасьцяў, спрычынімся ў максымальнай ступені для карысьці нашае нацыянальна-вызвольнае справы. Дасюлешняя, можа яшчэ за сьціплая й незаўсёды належна сплянаваная й скаардынаваная дзейнасьць паказала, што нашыя намаганьні ў гэтым кірунку не застаюцца бяз вынікаў, і гэта як на Бацькаўшчыне, таксама й у Вольным Сьвеце. А гэта ўскладае на нас далейшы абавязак гэтыя нашыя намаганьні ўзмоцніць ды больш мэтазгодна й рацыянальна ўжыцьцяўляць іх.

Беларуская палітычная эміграцыя — гэта арганічная частка ўсяго народу. Асноўная розьніца паміж народам і ягонай эміграцыяй тая, што калі Бацькаўшчына паняволеная й голас народу прыдушаны, мы ў Вольным Сьвеце карыстаемся ўсімі дэмакратычнымі свабодамі й правамі. Вось чаму нашым сьвятым абавязкам голасна перад сьветам казаць усё тое, чаго нельга сказаць нашым суродзічам дома. Нам трэба знаходзіць спосабы й каналы, якімі нашае свабоднае слова пранікала-б на Бацькаўшчыну й умацоўвала-б там веру ў лепшую будучыню. Нам выпала вельмі адказная й пачэсная, хоць і ня лёгкая, роля быць беларускімі амбасадарамі ў Вольным Сьвеце. Роля гэтая палягае першнаперш на тым, каб здабываць давер, сымпатыі, зразуменьне, спачуваньне й палітычную дапамогу ў грамадзтваў і палітычных, а таксама й дзяржаўных дзейнікаў Вольнага Сьвету для нашых нацыянальна-вызвольных імкненьняў.

Вось у гэткім сэньсе павінны быць як найурачысьцей адсьвяткаваныя сёлета 60-ыя ўгодкі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, а налета 60-ыя ўгодкі 25 Сакавіка.

**Ст. Станкевіч**

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У МЭЛЬБУРНЕ




**Беларуская выстаўка ў Тыдні Паняволеных Народаў у Мэльбурне**

Рада Паняволеных Народаў штату Вікторыя, Аўстралія, наладзіла 17-24 ліпеня сёлета сьцяг урачыстасьцяў і імпрэзаў, прысьвечаных народам Сярэдняй і Ўсходняй Эўропы, што знаходзяцца сяньня пад камуністычнай акупацыяй.

Тыдзень Паняволеных Народаў распачаўся 17 ліпеня экумэнічнай Божай Службай з удзелам сьвятароў усіх большых веравызнаньняў. Вялікая каталіцкая катэдральная царква сьв. Патрыка была перапоўненая вернікамі 14-ці этнічных групаў. У Божай Службе прыняло ўдзел 16 сьвятароў, між імі й а. А. Кулакоўскі з Мэльбурнскай парахвіі БАПЦарквы.

Прывітальную прамову й уводнае слова сказаў кс. пралат Ф. М. Чамбэрлен, протапрэзьбітар сьв. Патрыка, тады пачалася Божая Служба малітвай, якую прачытаў а. Гаркавы, украінскі каталіцкі сьвятар. Падчас Службы а. А. Кулакоўскі прачытаў адпаведныя вэрсэты зь Біблії. Прадстаўнікі паасобных этнічных групаў у іхных мовах маліліся да Ўсемагутнага за перасьледваныя камуністымі народы. Ад імя Беларусаў прачытала малітву сп-ня Т. Басарановіч.

Падчас урачыстасьці вельмі прыгожа пяяў лятувіскі каталіцкі царкоўны хор. Божая Служба закончылася прачытаньнем а. Даўкнісам малітвы Папы Пія XII за перасьледваную царкву. Сярод нацыянальных сьцягоў удзельнікаў урачыстасьці красаваўся й наш бел-чырвона-белы нацыянальны сьцяг. Трэба адзначыць, што ў сёлетняй Божай Службе прыняла ўдзел шмат большая колькасьць Беларусаў, чымся ў мінулым годзе.

20 ліпеня адбылося ўрачыстае адкрыцьцё выстаўкі этнічных групаў Рады Паняволеных Народаў. Адчыніў яе заступнік Міністра этнічных справаў Дыгбі Крозьер, які пасьля даўжэйшы час затрымаўся каля беларускага стэнду, аглядаў нашыя экспанаты ды распытваўся пра Беларусь, ейную культуру й мастацтва. За прыгожую дэкарацыю стэнду нашае вялікае дзякуй усім тым, што, не шкадуючы часу, шчыра працавалі, каб наш стэнд ня выглядаў горш за іншыя. Асаблівая падзяка тым, як'я падчас трываньня выстаўкі (тры дні) мелі там дзяжурствы й інфармавалі аб Беларусі наведвальнікаў. У вапошні дзень выстаўку наведалі вучні некалькіх сярэдніх школаў. Пытаньням пра Беларусь ня было канца. Шкада, што мы ня мелі ніякіх інфармацыйных лістовак у ангельскай мове. Няўжо нашыя арганізацыі ў ЗША ня могуць іх нарэшце выдаць?

Выстаўка адбывалася ў залі Гарадзкой Управы Мэльбурну. У нядзелю 24 ліпеня адбыўся канцэрт этнічных групаў. Пагода была нязвычайна дрэнная — холад, дождж з градам, страшэнны вецер — дзеля таго й прысутных было ня шмат. У канцэрце прыймалі ўдзел Лятувісы, Палякі, Чэхі, Вугорцы й Латышы. Канцэрт быў вельмі ўдалы. Асабліва гучнымі воплескамі былі ўзнагароджаныя Палякі, Лятувісы й Вугорцы. Польскі ансамбль песьні й танцу „Полёнэз" пад кіраўніцтвам сп-ні І. Чэх пратанцаваў польку, мазура ды колькі іншых танцаў і прапяяў дзьве песьні. Выкананьне было ўзапраўды высака мастацкае. Тое самае трэба прызнаць і вугорскай танцавальнай групе. На вялікі жаль, мы не змаглі яшчэ тымчасам прыняць актыўнага ўдзелу ў канцэрце. Магчыма, аднак, удасца нешта падрыхтаваць для канцэрту наступнага году.

Тыдзень Паняволеных Народаў у васноўным прайшоў вельмі добра. Заслуга ў гэтым кіраўніцтва Рады Паняволеных Народаў штату Вікторыя ды паасобных этнічных групаў.

**А. К-а**

## XVII КАНГРЭС БАЗА

3 верасьня сёлета ў грамадзкім селішчы „Полацак" каля Кліўленду, Огаё, адбыўся чародны двухгадовы справаздачна-перавыбарны XVII Кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Кангрэс перавыбраў на далейшую двухгадовую кадэнцыю дасюлешнюю Галоўную Ўправу БАЗА на чале із старшынём Антонам Шукелайцем. Дакладная справаздача з Кангрэсу будзе надрукаваная ў наступным нумары „Беларуса".

## ТРЭЙЦІ УНІВЭРСЫТЭТ У БССР

**Трэйці ўнівэрсытэт у БССР будзе адчынены ў Горадні** на базе пэдагагічнага інстытуту імя Янкі Купалы з факультэтамі матэматыкі, фізыкі, гісторыі, беларускае мовы й літаратуры, расейскае мовы й літаратуры.

Найстарэйшы ўнівэрсытэт у савецкай Беларусі — Беларускі Дзяржаўны, адчынены ў 1921 годзе, на якім цяпер вучыцца больш за 17 тысячаў студэнтаў. Другім унівэрсытэтам стаўся Гомельскі Дзяржаўны, адчынены ў 1969 годзе, на якім цяпер больш за 7 тыс. студэнтаў з 436 выкладчыкамі.

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $ 10. 00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У МАЯМІ



**Чало беларускай калёны ў маніфэстацыі**
**Фотаздымак малога фотарэпартэра Вінцука Мерляка**

Ужо 9 год падрад у Маямі, Паўдзённая Флярыда, хоць і не ў вялікай колькасьці, адзначаецца Тыдзень Паняволеных Народаў. Сёлета маніфэстацыя Тыдня Паняволеных Народаў была зладжаная Камітэтам Паняволеных Народаў у сыботу 23 ліпеня ў новым парку гораду пад лёзунгам „Свабода й Людзкія Правы для Паняволеных Народаў". У маніфэстацыі прынялі ўдзел прадстаўнікі наступных нацыянальнасьцяў: Беларусы, Кубінцы, Чэхі, Вугорцы, Лятувісы, Палякі й Украінцы.

Беларуская група ў сёлетнім годзе была больш імпазантнай. Нас было больш, дзякуючы сям'і Мерлякоў, якая прыехала на маніфэстацыю ад наймалодшага да найстарэйшае — бабуні. Сп-ня Лёнгіна Брылеўская ў нацыянальнай вопратцы ачольвала беларускую калёну з плякатам „Беларусь", а сп. К. Мерляк машыраваў зь беларускім нацыянальным сьцягам. Прадстаўнікі кажнай нацыі стараліся выкарыстаць кажную нагоду, каб распаўсюдзіць запраўдныя факты пра свой паняволены народ. Нехта зьбіраў подпісы пад пэтыцыяй у вабарону вязьненага баптыскага сьвятара Вінса, нехта іншы раздаваў лістоўкі „Расея — Хрысьціянства ці Камунізм?", лекцыі Паўла Варанаева пра запраўднае жыцьцё за зялезнай заслонай. Украінскія плякаты крычэлі: „Змагайся з камунізмам і жыві вольны", „Свабода Украіне" й плякаты ў вабароне Мароза й Ціхага. Беларуская група раздавала інфармацыйныя матарыялы пра Беларусь: карту Беларусі, беларускі нацыянальны гімн, „Беларусы ў Амэрыцы" д-ра В. Кіпеля ды выняткі з англамоўнай газэты „Гэрытадж Рэвю" пра высяленьні беларускае моладзі зь Беларусі ў Карэла-Фінскую ССР.

З галоўных прамоўцаў быў кангрэсмэн ад Маямскае акругі Кляўд Пэппэр, які ў сваёй прамове выкарыстаў наш беларускі інфармацыйны матарыял. Ён гаварыў аб пагрозе камунізму ў сьвеце й пра змаганьні з камунізмам паняволеных народаў, як, прыкладам, Беларусь, якая адна зь першых сталася ахвярай камунізму. Неспадзявана для ўсіх, сваю прамову закончыў ён, цытуючы дзьве апошнія строфкі беларускага нацыянальнага гімну. Словы „. . . хай гром грыміць яшчэ мацней . . ." запраўды гучэлі пад гром і пяруны трапікальнай буры, што пранеслася над маніфэстантамі.

Сэнатар Штатавае Легіслятуры й кандыдат на губэрнатара штату Флярыда Лёў Фрэй сказаў у сваёй прамове, што Прэзыдэнт Картэр пры фармаваньні сваёй замежнай палітыкі павінен прыслухоўвацца да голасу людзей такіх, як тут прысутныя, якія дакладна ведаюць, што сабой прадстаўляе камунізм і якую пагрозу нясе ён сьвету.

Малітву за Паняволеныя Народы прачытаў каталіцкі архіяпіскап Маямскае Архідыяцэзіі Эдвард Мэк Карты, прыгадаўшы лятувіскіх каталіцкіх сьвятароў, як эмагароў за правы чалавека.

Праклямацыю дня 23 ліпеня днём Паняволеных Народаў у горадзе Маямі прачытаў заступнік бурмістра гораду а. Гібсон. Старшынём Камітэту Паняволеных Народаў была прачытаная рэзалюцыя пратэсту й перададзеная кангрэсмэну Кляўд Пэппэру дзеля надрукаваньня яе ў „Кангрэсавым Рэкордзе".

Дзень Паняволеных Народаў быў папярэджаны адмысловай аўдыцыяй зь мясцовае радыястанцыі, а вечарам 23 ліпеня тэлевізійныя каналы NBC і ABC коратка перадалі фрагмэнты маніфэстацыі ў праграме „Апошнія падзеі дня".

**Эль Зэт**

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

У сыботу 16 ліпеня сёлета ў парку Мэк Артура ў Лёс Анджэлесе адбыўся міжнацыянальны дэманстрацыйны сход для ўшанаваньня „Тыдня Паняволеных Народаў", наладжаны арганізацыяй Амэрыканцы за Свабоду Паняволеных Народаў. У часе ўрачыстай праграмы на сцэне стаялі сьцягі паасобных народаў, паняволеных камунізмам, а між імі й наш беларускі нацыянальны сьцяг у асысьце беларускага дэлегата — сябры вышэй названай арганізацыі. З прамовамі выступалі й ведамыя прыяцелі паняволеных народаў, як каўнсыльмэн Адтур Снайдар, які прачытаў праклямацыю Гарадзкой Рады, прысьвечаную „Тыдню", і эсэмблімэн Майкл Антонавіч, які перасьцерагаў слухачоў аб сталай небясьпецы камунізму ў ЗША. Прэзыдэнт Кансэрватыўнай Вуніі сп-ня Кэтрын Кроў прыгадала словы Леніна: „Нам ня трэба будзе атакаваць Амэрыкі, бо яна сама ўпадзе ў нашыя рукі як пераспелы плод".

Пасьля прамоваў прысутныя перайшлі да помніка Вугорскім Змагаром за свабоду, каля якога быў пакладзены вянок з кветак. Сьвятары розных нацыянальнасьцяў сказалі „Ойча наш" на сваіх родных мовах.

Другая па вялічыні газэта ў Лёс Анджэлесе „Гэралд Экзамінэр" за 18 ліпеня памясьціла вялікую, бо на тры шпальты, фотаздымку із сцэны сходу із сьцягамі паняволеных народаў ды зь іхнымі прадстаўнікамі, вянком і двумя антыкамуністычнымі транспарэнтамі. Сярод сьцягоў на фотаздымцы быў добра відаць і беларускі сьцяг. У артыкуле побач з фотаздымкам у пераліку паняволеных краёў фігуруе й Беларусь.

Эпіскапальны Вікар шматмоўнага Апасталяту выдаў да парахвіяў заклік ахвяраваць у нядзелю 24 ліпеня малітвы за паняволеныя народы.

У сыботу 23 ліпеня ў касьцеле сьв. Базыля адбылася Божая Служба, прысьвечаная паняволеным народам, з удзелам іхных прадстаўнікоў з нацыянальнымі сьцягамі. Таксама й тут Беларусы прынялі ўдзел.

**Н.**

# ГРЫМАСЫ Й ГРЫМ РАСЕЙСКАГА ШАВІНІЗМУ

„Ужо колькі разоў сьцьвярджалі сьвету, што . . ." — гэтымі словамі з крылоўскай казкі пра Варону й Лісіцу хацелася-б пачаць артыкул пра шкоду шавінізму, пра якую, як ведама, столькі разоў і, на жаль, так бескарысна сьцьвярджалі сьвету шматлікія, вельмі шматлікія людзі. Між гэных людзей былі тыя, што цярпелі зло шавінізму, так сказаць, практычна, на сваёй скуры; былі й нядрэнныя тэарэтыкі, што асуджвалі нацыянальную фанабэрыстасьць і **нецярпялівасьць** з пункту гледжаньня ўсякіх добрых прынцыпаў. Сказаць нелга, каб усё гэта разам не дало ніякага эфэкту. Сяньня, бадай нельга знайсьці чалавека, што мог-бы гаварыць пра сябе як пра **прынцыповага** шавіністага. Аднак пацерабі добра тыповага расейскага „дэмакрата", што разважае пра лёсы Расеі пасьля пакульшто ўмоўнага, але ўсё-ж магчымага краху савецкага рэжыму, спытай яго пра лёс Украіны ці Беларусі, або, прыкладна, Армэніі ў выпадку такога краху, і на нас павее чадам такога дзікага, сьмярдзючага шавінізму, што тут і рукі табе ападуць, паставіўшы сабе пытаньне: а ці запраўды ён дэмакрат, ваш вялікадзяржаўны субяседнік, дый ці не праспаў ён у сваёй гістарычнай самасьведамасьці ўсе апошнія шэсьцьдзесят год нашага горкага, але вельмі павучальнага стагодзьдзя? Ужо што як што, а навука расейскай гісторыі пасьля праслаўтага „вялікага кастрычніка" павінна была-б адвучыць людзей ад закваскі шавіністычнага трызьненьня пра „адзіную й непадзельную Расею", што спачывае на крывавай аснове глумам створанага „адзінства" паняволеных народаў, прыгнечаных расейска-савецкім каляніялізмам! Дык не, дрэнна навучаюць лекцыі гісторыі тых, хто прынцыпова вучыцца на іх ня хоча.

Сьветчаньнем гэтага ёсьць пэрыпэтыі дыскусіі, што разгарэлася цяпер на бачынах газэты „Новое Русское Слово". Усё пачалося выступленьнем сп-ра Б. Броўцына, які ўзяўся крытыкаваць Уладзімера Букоўскага за выказаную ім „крамольную", з пункту гледжаньня шавіністычных зубраў, думку пра неабходнасьць даць кажнаму народу права на ягонае самавызначэньне. Здавалася-б, Уладзімер Букоўскі, што яшчэ нядаўна пакутаваў у савецкай вязьніцы разам з украінскімі, беларускімі, прыбалтыйскімі, каўкаскімі й іншымі змагарамі за волю, лепш ведае настроі людзей у Савецкім Саюзе ў такой далікатнай тэме, як нацыянальнае пытаньне, чымся аматары абстрактных схэмаў вялікадзяржаўнага мудрагельства, апанэнты ягоныя тыпу сп-ра Броўцына. Дык куды там! Б. Броўцын, не задаволены воклічам на адрыс Букоўскага (маўляў, камуністых можна лаяць толькі як камуністых, а пра тое, што яны ў дабавак яшчэ й каляніялістыя — пра гэта й не заікайся!), дык вось, не задаволены сваёй рэплікай нэгатыўнае ўласьцівасьці, („НРС", 5.3. 1977 г.), Б. Броўцын наважыўся прадставіць сьвету нейкую „пазытыўную" праграму прышлага ладу Расеі ў выглядзе „Расейскае Фэдэральнае Імпэрыі". Створаная ім дактрына выявілася злавеснай грымасай таталітарнага думаньня із слабым налётам псэўдадэмакратычнай касмэтыкі. Згодна схэмы сп-ра Броўцына, будучая Расея павінна **насільна** не дапушчаць нерасейскіх народаў да самавызначэньня, народаў сілай і абманам уключаных камуністымі (як і іх царскімі папярэднікамі ў каляніялізьме) у склад цяперашняга Савецкага Саюзу. Агрэсыўна-шавіністычныя „адкрыцьці" Броўцына былі падшытыя яшчэ й тэй акалічнасьцяй, што ў красавіку сёлета ў колькіх нумарох „НРС" быў зьмешчаны (у парадку дыскусыі) вялікі артыкул доктара гістарычных навукаў Лявона Тарасюка „Пра некаторыя ілюзіі й рэальнасьць". У гэным артыкуле Л. Тарасюк, салідарызуючыся з пазыцыяй Уладзімера Букоўскага ды выказваючы ладную эрудыцыю й разуменьне нацыянальнае праблематыкі, даў глыбока правільную аналізу сытуацыі ў СССР ў сувязі **зь** міжнацыянальнымі дачыненьнямі. Ён таксама змушаны быў з горычай сьцьвердзіць, што „ў васяродзьдзі расейскае эміграцыі тэарэтычны падход да гэтае праблемы вельмі часта ў існасьці сваёй мала розьніцца ад крамлёўскае практыкі" („НРС", 19.4.77). І слоўна сьцьвярджаючы гэтую думку, сп-р Броўцын, памаліўшыся вобліку „адзінай і недзялімай", узяўшы драхлую дзіду клясычнага каляніялізму, аднак спадзяючыся на помач поўнасьцяй сучаснае й надта рэальнае зброі нашых дзён у выпадку, калі дойдзе „до кровушкі", рынуўся ў бой (пакульшто толькі слоўны!) супраць нянавісных яму „сэпаратыстых" і „расчляніцеляў" Расеі. І тут чаго ён ужо не нагарадзіў! Зрэшты, лепш спынімся на міг і дадзём слова самому сп-ру Броўцыну:

**„У нашых нерасейскіх валоданьнях на Каўказе і ў Сярэдняй Азіі,** — прадракае ён ледзь не „імпэратарскім" тонам, — **відавочна, будуць спробы так званага „самавызначэньня", што пачнуць тыя элемэнты, якія злосьць супраць камунізму выкарыстаюць як прычыну на „адзьдзяленьне". Дастатковыя адзьдзелы ўсерасейскае арміі павінны знаходзіцца ў гэтых краінах, каб перасеч спробы да расколу й адзьдзяленьню ад Расеі"** („НРС", 19.5.77).

Гэта „адкрыцьцё" № І. І мы, усе прыхільнікі вызваленьня народаў ад любой хвормы каляніялізму, мусім, так сказаць, гэта „на лобе сабе напісаць", што, у выпадку чаго, супраць нас кінуць „дастатковыя адзьдзелы" арміі. Што й казаць, аргумант „моцны"! Да таго-ж, справа тычыцца ня толькі змагароў за свабоду Каўказу й Сярэдняе Азіі.

У другім „адкрыцьці" сп-ра Броўцына кажацца: **„Сама першым заданьнем будзе закрыцьцё межаў (!), забарона ўезду ў Расею эмігрантам, з выключэньнем прыхільнікаў новае ўлады** (трэба мяркаваць, што, прыхільнікаў сп-ра Броўцына — А. Г.). **Асаблівую ўвагу трэба даць на прадухіленьне ўезду ў Расею ідэйных расчляніцеляў Расеі незалежна ад месца іх нараджэньня . . ."**

Вось як яно, чытач! Даўно ўжо абжылася думка, выкарыстоўваная антыкамуністымі ў палеміцы з таталітарызмам, што дэмакратычная, заходняга ўзору, сыстэма ўлады зьяўляецца „адкрытай грамадзкасьцю" тады, як таталітарызм ёсьць сыстэмай грамадзкасьці „закрытае". Ськінуць таталітарны рэжым, значыць трэба зрабіць грамадзкі лад „адкрытым", свабодным, дэмакратычным, маючы наўвеце й „адкрытыя межы". А сп-р Броўцын, што выдае сябе за праціўніка савецкага рэжыму, хоча пачынаць будову „новае" Расеі з „закрытых межаў" і збройнага душэньня вызвольных імкненьняў. Ці-ж ня грымаса таталітарызму?

Зрэшты, тут-жа йдуць і прыкрасы гэнага. Аказваецца, сп-ра Броўцына, зь ягоным дэвізам „трымаць і ня пушчаць", найбольш непакоіць лёс самых народаў, што ня ў час вызваляцца ад Расеі. Вось, прыкладна, — разважае ён, — адасобіцца Армэнія й Грузія, і што будзе?" **„. . . Небясьпечнымі былі-б ужо мінулыя сутычкі Армянаў з Грузінамі",** — наракае ён, мяркуючы, што толькі расейскі штык мог-бы зьявіцца пальмай міру для „неразумных" Армянаў і Грузінаў. І якая-ж тут крывадушнасьць! Сам гатоў праліваць кроў усіх, хто змагаецца за волю, пры помачы „дастатковых адзьдзелаў" арміі, і гэтта-ж прыкідваецца, што больш усяго „заклапочаны" магчымасьцяй кровапраліцьця . . .

Падыходзяць гэтым „адкрыцьцём шавінізму" й рэкамэндацыі Броўцына ў украінскім пытаньні. Украіну, на яго думку, адзьдзяляць, бязумоўна, нельга, бо **„пасьля падзелу стварыліся-б новыя нацыянальныя меншасьці, асабліва расейская меншасьць на Украіне".**

Ну й стварылася-б, — скажам у вадказ Броўцыну. — Што-ж з гэтага? Думаючы дэмакратычнымі катэгорыямі, належыцца насьперш браць на ўвагу інтарэсы бальшыні, якой зьяўляецца ўкраінскі народ, што мае поўнае права на стварэньне собскага незалежнага гаспадарства, якое само будзе разьвязваць праблемы нутранога ладу ўва ўсіх аспэктах і намерах. Калі-ж ідзе пра расейскую меншасьць на Украіне, дык лёс яе пэўне-ж будзе лепшым ад цяперашняга лёсу „расейскае бальшыні" ў Савецкім Саюзе, калі (на што ёсьць асновы спадзявацца) разьвіцьцё незалежнае Украіны пойдзе дэмакратычным шляхам.

Зь беларускай праблемаю сп-р Броўцын распраўляецца яшчэ прасьцей, чым з украінскай. Уласна кажучы, тут для яго праблемы нікай няма. Расплаціўшыся фразай пра нейкі адзіны „беларуска-расеййска-ўкраінскі народ", ён мяркуе, што пытаньне вычарпана: ужо калі Украінцаў належыцца „ня пушчаць" (дарэчы, утрымаўшы Украіну, ён надта-ж „остроумно" спадзяецца і ўтрымаць Малдавію), дык пра Беларусаў і гаварыць няма патрэбы.

Уся аргумэнтацыя Броўцына спачывае на абуральным, чыста савецкім у характары, выкрыўленьні гісторыі. Уся мінуўшчына Расейскае імпэрыі рысуецца ім у выглядзе „раю" для паняволеных народаў; усе яны, маўляў, „дабравольна" прылучыліся да Расеі, ну а калі прынцып гэнае „дабравольнассьці" часамі крыху й нарушаўся . . . дык усё-ж, згодна Броўцына, гэным народам пад расейскім ботам жылося лепш, чым безь яго. Гэта проста плягіят із савецкіх школьных падручнікаў гісторыі. Больш таго. Салідарызуючыся з шаблёнамі імпэрыялістачнага думаньня, Броўцын схільны апраўдаць найбольш наглыя акцыі савецкіх імпэрыялістых. Гэтак, у нумары „НРС" з 18.5, 1977 г. ён апраўдвае агрэсыю СССР супраць Фінляндыі ў 1939 г. тым, што **„Карэльскі перашыек і горад Выбарг Расеі патрэбныя як стратэгічная папраўка мяжы, што прабягала да 1940 году амаль на прадмесьцях Ленінграду".** Чытаеш гэткае й толькі спытаць выпадае: хто ў каго пазычыў аргумантацыю — Сталін з Молатавам у сп-ра Броўцына, ці сп-р Броўцын у Сталіна з Молатавам?

Запраўды, вялікае маем шчасьце, што ня суджана ажыцьцявіцца броўцынскім трызьненьням і прадказаньням пра „будучую Расею". Занадта-ж яны бязглуздыя на фоне гістарычнага дазнаньня расейскага й іншых народаў, паняволеных камуністымі. Аж па вушы насыціліся яны ўсялякімі „фэдэрацыйнымі" трыкамі й размовамі пра „брацкую руку", „дружбу народаў" і іншай дэмагогіяй з арсэналу савецкае прапаганды. Тое, што сп-р Броўцын выкарыстоўвае чыста савецкую характарам аргумэнтацыю, сьветчыць пра ягоное таталітарыстаўскае думаньне, якое ніяк нельга падладзіць пад нешта „дэмакратычнае" чыста вонкавымі „антыкамуністычнымі" зваротамі. Пацеха адна, што сп-ра Броўцына не заўсёды сур'ёзна браць трэба: надта-ж ён заўзяўся ў сваім шавіністычным красамоўстве, дый наагул ёсьць у ім штосьці із шчэдрынскіх пэрсанажаў з „Гораду Глупава". Дык навет у глыбокім балоце расейскага шавінізму, дзе ўсялякай дзічы й безь яго хапае, сп-р Броўцын выступае ў ролі гэткага „вялікадзяржаўнага" Угрум-Бурчэева.

Дарэчы, палітычная пазыцыя Броўцына характарызуецца найлепш ягоным прызнаньнем, калі разважае пра „будучыню Расеі".

**„Адміністрацыйны лад,** — піша ён, — **астаецца ад савецкае ўлады. Трэба толькі зьмяніць людзей".** Запраўды, гара нарадзіла мыш. З гэткім ідэйным багажом, дзякуй Богу, ніякія „фэдэрацыйныя імпэрыі" ня маюць найменшых шансаў узьнікнуць. Або, магчыма, наш шавіністы сур'ёзна мяркуе, што сьвет зьменіцца радыкальным спосабам адно заменай „таварышча Брэжнёва" „спадаром Броўцынам", пакінуўшы „адміністрацыйны лад" савецкае ўлады? Пэрлы угрум-бурчэеўскага пражэктарства, якія дэманструе Броўцын, астануцца, ведама, у памяці, як прыклад маньякальнага кур'ёзу. А ў усім іншым суджана ім поўнае й зусім заслужанае забыцьцё.

На гэнай-жа хвалі шавінізму „працуе" й іншы важны аўтар расейскае эміграцыі Н. Отрадзін. Ён, бязумоўна, спрытнейшы за Броўцына ў сваёй палеміцы, не такі груба прасталінейны, але затое б'е ўсе рэкорды палітычнага крывадушша. Прыкідваючыся, ён адказвае на заклік Л. Тарасюка да расейскіх эмігрантаў, каб тыя прызналі гістарычную віну Расеі перад паняволенымі нацыямі, жаласнай рэплікай у такім духу, што маўляў, як мы можам рабіць нейкія дэклярацыі, мы — эмігранты, слабыя, раськіданыя; вялікая будзе цана нашым дэклярацыям? **„. . . Навет урачыста прынятыя вялікімі дзяржаўнымі дзеячамі, што займаюць высокія пасады, забавязаньні часта ня выконваюцца, — чаго-ж патрабаваць ад нас, малечы? Ніхто да ніякіх дэкля-**

**(Заканчэньне на 4-й бачыне)**

# ПАСЬЛЯ ФЭСТЫВАЛЮ...

З усімі ягонымі блескамі й некаторымі ценямі, — пра гэта далей, — Другі Беларускі Фэстываль у Нью Джэрзі ёсьць нашай бязумоўнай удачай з кажнага гледзішча. Але сказаўшы гэта, трэба сказаць і далейшае: удалыя фэстывалі з году ў год пачнуць усё больш прыцягваць як сваіх, так і чужых, а гэта забавязвае. Паколькі намі цікавяцца, трэба загадзя падрыхтаваць і даць публіцы ўсё тое, што зможа заспакоіць гэтую цікавасьць, а нам прынясе карысьць.

Вось-жа, слабым бокам сёлетняга паказу, хоць і мала заўважаным, бо англамоўных гасьцей было ў нас яшчэ не зашмат, было тое, што калі-б хто захацеў даведацца, хто такія Беларусы, скуль узяліся, якая ў іх мінуўшчыня й г. п., дык ніяк не даведаўся-б- Ня было нічога з англамоўных публікацыяў на гэтую тэму, таксама ня быў ніхто прызначаны, каб расказаў публіцы пра гэтыя важныя рэчы. Гэтае занядбаньне самапрапаганды трэба неяк выправіць. Перш-наперш трэба апрацаваць і выдаць папулярную брашуру „Беларусь і Беларусы" з добрымі каляровымі фотаздымкамі, з картай і г. п. Няма сумлеву, што кніжыца сябе аплаціла-б. Другое, трэба ў вагульнай праграме фэстывалю адвесьці час, скажам, пасьля паказу народных касьцюмаў, недзе ад 1:30 да 2:30 папаўдні, на вусную інфармацыю паангельску на тэму „Беларусы ў мінуўшчыне й сяньня". Гэткім парадкам, едучы дахаты, людзі павязуць із сабою шмат больш, чымся адны прыемныя ўражаньні.

А цяпер што да канцэрту. З малымі выняткамі агульнае ўражаньне бясспрэчна станоўчае, велічнае. Відаць, што людзі ўлажылі шмат працы, паказалі шмат энтузіязму й ахвярнасьці. За гэта належыцца ўсім, як арганізатарам, гэтак і радавым удзельнікам, шчырая падзяка ад усіх нас. Хай іхняя ўдача заахвоціць іншых да арганізаваньня хораў, танцавальных гурткоў і г.п.

Тым ня менш, у праграме кідаліся ў вочы колькі пунктаў, якім цяжка знайсьці апраўданьне: прыкладам, рэлігійная песьня „Ныне отпущаеши раба Твоего..." Калі гэта мела быць малітва, публіка мусіла-б выслухаць яе стоячы. А так, як канцэртны нумар гэта прыгожая й важная рэлігійная песьня выйшла хутчэй як нейкі рэвэранс у бок Масквы . . . пакідаючы некаторы нясмак. Узноў-жа цяжка выясьніць, чаму ў праграме выступленьня тэнара М. Стрэчаня знайшлася песьня з амэрыканскага вадэвілю? Якое яна мае дачыненьне да беларускага мастацтва?

Колькі словаў што да гімну „Магутны Божа", зь якога, як і належыць, пачалася ўся праграма. Усё-ж не прагучэў ён так велічна, як ён звычайна гучыць у нас у цэрквах, і гэта зь вельмі цікавай прычыны: праз увядзеньне салістага хор аказаўся сапхнутым на другараднае месца і ўвесь чароўны настрой гімну затушаваўся . . . З усёй увагай да нашага шаноўнага салістага-баса П. Конюха — сьпяваў ён беззаганна — мы мусім усё-ж сьцьвердзіць, што ідэя салёвага выкананьня гэтай велічнай песьні сябе не апраўдала. Давялося мне аднойчы чуць яе найграную на кружэлку ў тым-жа выкананьні з добрым расейскім хорам і зь вельмі слабым вынікам: салісты кампletна дамінуе хор, які толькі месцамі прабіваецца бязь ніякага эфэкту. Не, манумэнтальная гэтая песьня, створаная сьв. пам. кампазытарам М. Равенскім, не для адзіночнага, а для грамадзкага, так сказаць, для народнага выкананьня. Гэтак яе сьпявае народ у нашых сьвятынях.

Мала лепш пашчасьціла й другому гімну камп. М. Равенскага — „Люблю наш край". Хоць успрыймаецца ён намі, як адна больш звычайная песьня да ведамага вершу ведамай паэткі (у праграме Фэстывалю гэта „Ода да Беларусі" — ну, хай сабе будзе й так . . .), усё-ж музычна гэта самы запраўдны й пры тым выдатны гімн, які гучыць на ўсю веліч сваю толькі ў груповым, шматлюдным сьпяваньні. Увядзеньне салістак і тут таксама не памагае, а толькі псуе эфэкт, не даючы мэлёдыі разьвіцца ў вышыню й шырыню. Ніколі не забудуся, як пару год таму на ўрачыстым сьвяткаваньні ў бруклінскім грамадзкім цэнтры песьня гэтая спантанічна ўзьнялася сярод бяседнікаў і раптам грымнула гэткім магутным парывам, што ўсім ажно шорахна стала . . ., а прысутныя госьці распыталіся, скуль гэта ў нас такая велічная мэлёдыя. Так, яна ў нас ёсьць, толькі ці ўсе мы гэтай велічы сьвядомыя?

Канчаючы дыскусыю пра гэтыя два нашыя гімны, хочацца зрабіць канструктыўную прапанову на будучыню: паколькі абедзьве мэлёдыі, і словы да іх, вельмі папулярныя й шырака ведамыя сярод нашай эміграцыі, яны вельмі надаюцца, каб імі пачынаць фэстываль — у выкананьні спалучаных харавых ансамбляў, усіх удзельнікаў і ўсіх прысутных, як і належыць гімнам.

Паколькі гэта ёсьць Беларускі Народны Фэстываль, зусім натуральная рэч для сваіх і чужых спадзявацца ад усіх выканаўцаў, ад кампазытараў і кіраўнікоў хораў, запраўднага народнага паказу. Далёка ад родных ніў, адарваныя ад народнага пня, усе мы роўна спрагненыя папіць вадзіцы зь вечна сьвежай народнай крыніцы. А й чужым моцна цікава зьведаць тайніцу беларускай народнай душы, зачараваную ўва ўсіх формах нашай народнай творчасьці. Ведаю, што адна адзіная песьня аўтэнтычнай сялянскай пяюньні на гэтай агромнай сцэне фэстывальнага амфітэатру была-б запраўднай сэнсацыяй дня для ўсіх: дома-ж яны прывыкшы сьпяваць на найбольшай з усіх сцэнаў — на неабсяжнай шыры палёў, у высокае неба, да самых зор . . . Нажаль, арыгінальныя народныя выканаўцы-самародкі, калі й былі тут сярод нас, дык ужо зьвяліся. Цяжка думаць, што маглі яны дзе-небудзь захавацца. Але-ж ёсьць у нас нямала тых, што ў маладосьці сваёй мелі шчасьце чуць і бачыць традыцыйна беларускае народнае творства ў ягонай аўтэнтычнай форме. На іх нашая надзея. Мы пэўныя, што зь іхнай дапамогай і пры спрыяльных абставінах тут, далёка ад роднай зямлі, наўсуперкі ўсім высілкам ворага, зможам утрымаць цягласьць нашых культурных традыцыяў, каб пасьля вызваленьня Бацькаўшчыны ўзноў насадзіць і аднавіць іх там, дзе яму ўдасца парабіць спусташэньні.

Як вадама, сяньня на Бацькаўшчыне народ наш перажывае новую фазу маскоўскага наступу на нашую апрычонасьць, на нашыя спрадвечныя традыцыі: ціхай сапай акупант абвесьціў ім, як „устарэлым перажыткам", татальны байкот, асуджаючы іх гэткім парадкам на паступовае адміраньне й забыцьцё. Сельскія харавыя гурткі там ужо не завуцца больш народнымі, а „фальклёрнымі — гэтымі тэрмінамі падчыркваецца іхная адарванасьць ад савецкай сучаснасьці, ад г. зв. „савецкага прагрэсу". Народнай апраткай там адкрыта ганьбуюць, а калі дзе й публікуецца які фотаздымак, дык з „паясьненьнем": „старадаўная беларускай вопртака", г. зн. ужо нямодная, няпрыгодная да нашэньня. Гэткім парадкам, на месца нашых старых, хоць і багатых, але „аджытых", згодна маскоўскай апініі, народных традыцыяў, там хітрамудра пад барабан „прагрэсу" насаджваецца зусім новая „савецкая беларуская культура", з новымі песьнямі, танцамі, навет абрадамі.

Народ бароніцца, як можа. Вось у пляне гэткай абароны й трэба разумець даволі цікавую, на першы пагляд, акцыю свайго роду мадэрнізацыі беларускіх народных песьняў, запачаткаваную выдатным ансамблем „Песьняры". Нажаль, калі разважыць, як трэба, усе плюсы й мінусы, гэты экспэрымэнт ня выглядае на ўдалую разьвязку праблемы. Ахвотна прызнаючы вакальнае й інструмэнтальнае майстроўства „Песьняроў" ды тую прапаганду, якую ім удалося зрабіць нашаму народу й нашай культуры — у чым Масква ўмее іх нэўтралізаваць — як гэта паказала іхнае нядаўнае турнэ па Амэрыцы — мы мусім сьцьвердзіць, што прыбіраньне спрадвечнай песьні Беларуса ў мадэрністычную вопратку робіць ёй мядзьведжую ўслугу: яно зацірае ў ёй наш нацыянальны твар, выганяе зь яе беларускі народны дух, пакідаючы адно пустую форму — мову. У канчатковым разьліку гэта адмоўнае зьявішча й нельга ім вельмі захапляцца.

Усё-ж талераваць яго можна, але толькі як зусім новую форму музычна-песеннай творчасьці — чым яна й ёсьць на Захадзе — у беларускай мове й на беларускія тэмы. Але гэта не народная творчасьць і ейная сувязь зь беларускімі народнымі песьнямі зьява часовая й выпадковая. Толькі час пакажа, ці гэтыя новыя песьні прымуцца ў народзе й да якой ступені яны змогуць стацца народнымі. Пакульшто, як выглядае, рэакцыя ёсьць нэгатыўная: вось ужо йдзе восьмы год, а ня чуваць, каб запачаткаваны „Песьнярамі" рух „пераліцоўкі" беларускіх народных песьняў здабыў сабе шмат пасьлядоўнікаў ці імітатараў. Відавочна, любасьць да спадчыны продкаў у народзе жыве й мацуецца, адкідаючы ўсе падробкі й эрзацы.

Вышэй закранутай акцыі „Песьняроў" нельга зьмешваць з агульным пытаньнем беларускай сучаснай песьні, як гэткай. Выступленьне нашага маладога й здольнага песьняра-гітарыстага Данчыка Андрусышына, шчыры энтузіязм аўдыторыі ды шырокая папулярнасьць ягоных песьняў усюды сярод беларускіх эмігрантаў паказваюць, што такая творчасьць адпавядае патрэбам нашага жыцьця й варожыць ёй добрую будучыню.

У канфрантацыі з татальным наступам Масквы на самабытнасьць нашай культуры нам, беларускай палітычнай эміграцыі ў вольным сьвеце, наканаваная місыя: захаваць і шырака прапагаваць запраўдную, традыцыйную, беларускую культуру, якой сяньня на зямлі прашчураў нашых не стае прастору, ані навет чыстага паветра да дыханьня, да вольнага жыцьця й разьвіцьця. Ідучы шляхам гэтай кансэрватыўнай місіі, мы зможам у вялікай меры нэўтралізаваць ядавіты хвальш, якім Масква ўводзіць у блуд сусьветную апінію, а сярод нас засявае паралізуючае творчы дух зерне пачуцьця ніжэйшасьці, малавартаснасьці. Урэшце паможам сарваць маску з твару ўлады, якая вось ужо 60 год як нема крычыць, што яна „народная", будучы на справе непапраўна дзікай, нялюдзкай, антынароднай.

У духу гэтай вялікай місіі, што лёс нам прызначыў, і трэба расцэньваць гэты наш Фэстываль і ўсе наступныя.

**П. Вішнеўскі**

## БЕЛАРУСКАЯ ВЫСТАЎКА У МЭЙНЕ




**Галоўны ініцыятар і арганізатар выстаўкі Павел Кулеш. Побач сп-чня Раіса Станкевіч**



**Фрагмэнт выстаўкі**
**Абодвы фота Барыса Русака**

30 ліпеня сёлета адбылася ў Рычманьдзе, Мэйн, выстаўка беларускага народнага мастацтва. Падобна як і мінулым летам, выстаўка мела вялікі посьпех, бо ў гэтым часе тут урачыста адзначаецца традыцыйны Дзень Рычманду. Да гэтага часу ніякая нацыянальнасьць, апрача Беларусаў, гэткіх выставак не арганізавала, калі ня браць пад увагу продажу мясцовымі гандлярамі й умельцамі розных цацак і падобных рэчаў.

Вялікая вывеска „Byelorussian Exhibits" зь бел-чырвона-белым сьцягам ды памастацку выкананая скульптура. В. Лапушэнкі прыгожа ўдэкароўвалі вакно выстаўкі. Экспанаты прысланыя Ю. Корчыкам, выкананыя на Беларусі, а таксама прыгожыя вышыўкі спадарынь Ж. Гурын, Н. Кулеш, М. Супрун, Т. Русак ды тканіны сп-ні А. Саўчыц, прывезеныя ёю зь Беларусі, цікавілі наведвальнікаў сваім арыгінальным мастацкім выкананьнем.

Асаблівая ўдзячнасьць належыцца пры арганізаваньні выстаўкі сп-чні Раісе Станкевіч, бо-ж яна прывезла зь Нью Ёрку шмат цэнных экспанатаў, удзельная вага якіх на выстўацы была вялікая. Сама сп-чня Р. Станкевіч у прыгожай беларускай народнай вопратцы праз увесь час інфармавала наведвальнікаў пра Беларусь і беларускую эміграцыю ў ЗША, раздаючы пры гэтым прывезеныя ёю адмыслова для выстаўкі друкаваныя лістоўкі ў ангельскай мове.

Прыемна было бачыць на выстаўцы галоўнага рэдактара газэты „Беларус" д-ра Станіслава Станкевіча. Ён-жа прывёз із сабою для пашырэньня на выстаўцы некаторую колькасьць згаданае газэты.

Сваёй ініцыятывай і супрацоўніцтвам у арганізаваньні й правядзеньні выстаўкі прынёс выдатную дапамогу для агульнае грамадзкае справы мясцовы жыхар сп. Барыс Русак, за што належыцца яму вялікая падзяка.

Ладжаньне беларускіх выставак і іншых імпрэзаў магчыма паможа зацікавіць Беларусаў Мэйну нашай роднай справай ды прыцягне іх у рады беларускіх арганізацыяў, а іншым нацыянальнасьцям пакажа, што жыве Беларусь.

**П. Кулеш.**

## КАНФЭРЭНЦЫЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ РАДЫ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЯЎ

2-га жніўня сёлета мне выпала ад імя газэты „Беларус" прыймаць удзел у прэсавай Канфэрэнцыі Дэмакратычнай Рады Нацыянальнасьцяў, што адбылася ў Вашынгтоне на Капітолю. У запросінах на Канфэрэнцыю было зазначана, што склікаецца яна ў сьпешным парадку, а ейнай тэмай будзе пытаньне людзкіх правоў.

Старшыня Дэмакратычнай Рады Нацыянальнасьцяў, калішні даўгагадовы бурмістр Нью Ёрку, Робэрт Ф. Вагнэр, адчыняючы Канфэрэнцыю, прывітаў прысутных сяброў Рады, прадстаўнікоў рознамоўнае этнічнае прэсы, якіх было больш за сотню, і гасьцей. У канцы сваёй прамовы ён зазначыў, што пажаданьні, выказаныя на гэтай Канфэрэнцыі, будуць данесеныя ў Белы Дом — Прэзыдэнту Джымі Картэру й Кангрэсу ЗША.

Пасьля прамаўляў старшыня Нацыянальнага Дэмакратычнага Камітэту Кэнэт Куртыс, які выказаў надзею, што справам этнічных групаў будзе давацца большая, чымся дасюль, увага. У працэсе ажыўленай дыскусіі аформіўся праект заснаваньня новага арганізацыйнага Камітэту, пашыранага на большую колькасьць этнічных арганізацыяў усяе Амэрыкі, дзеля супрацоўніцтва з Нацыянальным Дэмакратычным Камітэтам. Гэты новы Камітэт мае сабрацца на першае сваё паседжаньне на працягу 90 дзён.

Бальшыня прамоўцаў выказвалася за моцную пазыцыю на Белградзкай канфэрэнцыі ды дзякавала Прэзыдэнту Картэру за ягонае цьвёрдае становішча ў пытаньні людзкіх правоў. Старшыня Польскага Нацыянальнага Кангрэсу Валентыновіч выказаў незадаваленьне, што на ўсіх узроўнях — гарадзкіх, штатавых і фэдэральным абмінаюць і дыскрымінуюць этнічныя групы, асабліва датычыцца гэта да Амэрыканцаў славянскага паходжаньня.

У прыватнай гутарцы пасьля Канфэрэнцыі ўдалося мне асабіста пазнаёміцца із старшынём Нацыянальнага Дэмакратычнага Камітэту Кэнэт Куртысам і перадаць яму копію мэмарандуму БАЗА й БІНіМ-у на Белградзкую канфэрэнцыю пра пагвалчаньне людзкіх правоў на Беларусі ды коратка яго паінфармаваць пра беларускія грамадзкія арганізацыі ў ЗША. Таксама ў часе абеду ў залі Канфэрэнцыі была нагода абмяняцца думкамі з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасьцяў, як і зь дзеячамі Дэмакратычнай партыі.

Пасьля абеду выступалі з прамовамі сябры й прадстаўнікі ўраду ЗША: міністар земляробства Робэрт Бэргланд, заступнік міністра культуры Робэрт Дафі. Паміж прысутнымі былі старшыня замежнае камісіі Кангрэсу Клемэнт Заблоцкі, кангрэсмэн зь Нью Ёрку Марыё Біяджы й іншыя.

Застаецца чакаць наступнае Канфэрэнцыі, каб ацаніць вынікі гэтага першага кантакту зь кіраўнікамі Дэмакратычнае партыі, якая мае добра папрацаваць, каб надрабіць страчанае за гады ігнарацыі й занядбаньня справаў этнічных групаў Амэрыкі.

**Раіса Станкевіч**

# ПАДАРОЖЖА ЭТНІЧНАЕ ПРЭСЫ ПА АНТАРЫІ



Міністар Шматкультур'я Джозэф Гэй з прадстаўніком „Беларуса" Антонам Маркевічам



Зь ім-жа ў часе гутаркі пры іншай нагодзе Міністар Іміграцыі й працоўных рэзэрваў Бад Каллэн

Сёлетняе падарожжа адбылося 12-17 чырвеня шляхам усходня-паўдзённага Антарыя, а гэта дзякуючы Міністэрству Індустрыі й Турызму гэтае правінцыі Канады. У паездцы прыняло ўдзел 35 асобаў ад шматлікіх этнічных газэтаў, у тым ліку й прадстаўнік „Беларуса" на Канаду Антось Маркевіч.

У першы дзень падарожжа апыніліся ў сталіцы Канады — Атаве, дзе й разьмясьціліся ў мадэрным гатэлі „Скайлайн" з побытам колькіх дзён. На другі дзень з раньня аглядалі сталічны горад і ягоныя ваколіцы. Пасьля гэтага чакаў на нас абед, дадзены ў наш гонар новастворамым Міністэрствам Шматкультур'я (Мультыкультуралізму). Сярод нас былі наступныя дастойнікі: сам Міністар Джозэф Гэй, сэнатар, ён-жа й старшыня Кансультатыўнай Рады для Шматкультур'я Пітэр Боза, Фрэнк Бэл, Стэн Зыбала, Сусан Скоты, Дэніс Монсіён, Фаўро, Фрэн Шыр, Ал Вэн (дырэктар нашага маршруту) — усе яны ад розных міністэрстваў. Прыняцьцё й абед прайшлі ў вельмі мілай атмасфэры, падчас якіх можна было пазнаёміцца із згаданымі дастойнікамі.

Пасьля абеду былі наладжаныя дзьве экскурсіі — у фэдэральны парлямант і бібліятэку, якая адзначыла свае сотыя ўгодкі. Апрача гэтага, мы былі сьветкамі вольных дабатаў у Палаце Рэпрэзэнтантаў на тэму арганізаванага крымінальнага злачынства ў Канадзе.

Пазьней наведалі будынак Нацыянальнага Архіву, дзе месьціцца й Этнічны Архіў. Мяне моцна цікавіла, што ёсьць там зь беларускага матарыялу. Назаўтрае я адмыслова правёў пару гадзінаў з адным із супрацоўнікаў Этнічнага Архіву нашым добрым прыяцелем сп. Уладзімерам Сенчуком, Канадыйцам украінскага паходжаньня ў трэйцяй генэрацыі. Аказалася, што толькі сп. К. Акула й д-р Р. Жук-Грышкевіч зрабілі пачатак у гэтым кірунку, падараваўшы Архіву частку сваіх і арганізацыйных матарыялаў. Вельмі сумна, што мы ў Канадзе мала рупімся, каб захаваць нашыя нацыянальныя дакуманты й матарыялы, што маглі-б быць сьветкамі нашае беларускае дзейнасьці. Даведаўся я, што й д-р Я. Садоўскі пабываў у Этнічным Архіве ў пошуках матарыялаў для рыхтаванае ім працы пра Беларусаў Канады. Думаю, што й ён быў ня менш расчараваны.

Некаторыя з нас зацікавіліся Канадыйскай Нацыянальнай Бібліятэкай. Тут нас пазнаёмілі зь дзейнасьцяй Шматмоўнай Бібліяслужбы (Мультылінгуал Бібліосэрвіс). Як ведама, ад колькіх год КНБібліятэка ў рамах урадавай Праграмы Мультыкультуралізму набывае кнігі ў розных этнічных мовах (набыта ўжо ў 27-мі мовах), якія пазычаюць для сваіх патрэбаў бібліятэкі цэлае краіны. Зь беларускіх кнігаў, на жаль, ня было нічога. На маё інтэрвэньяваньне ў гэтай справе адказ быў гэткі: папершае, ня было запатрабаваньняў на беларускія кнігі, падругое, паасобныя мовы дадаюць штогоду паступова, бо паводле статыстыкі ўсіх этнічных моваў у Канадзе 72. Мне здаецца, што ўсім Беларусам трэба зрабіць супольныя стараньні, каб і беларуская кніга ў гэтай важнай бібліятэцы як найхутчэй заняла сваё месца.

На трэйці дзень мы апынуліся ў Сміз Фолс і наведалі цэлай экскурсіяй тамашнюю Гэршы шакаляндную хвабрыку, а ў вечары пазнаёміліся з навакольлем, праехаўшы водным шляхам сьв. Ляўрэнта. На чацьверты дзень былі мы ўжо ў Кінгстане. Па дарозе туды мы былі запрошаныя наведаць Лятувіскі Мастацкі Цэнтр сп-ва Антанаса й Анастазіі Тамошаўцісаў. Я сказаў-бы, гэта запраўдны музэй. Чаго ў ім толькі не знайсьці, што стварылі таленавітыя рукі й розум гэтай пары мастакоў! Я раю кажнаму з нас наведаць гэты цэнтр, асабліва тым, што займаюцца народным мастацтвам, бо там ёсьць шмат народнага прыладзьдзя, ведамага й на Беларусі.

Праз ноч мы ўжо былі ў Бэлвіл, дзе былі запрошаныя на хвабрыку кухонных прыправаў кампаніі Брук Бонд Фудс. Ня менш цікавы тут імпарт сыравіны з цэлага сьвету й працэс ейнае перапрацоўкі. Папаўдні накіраваліся на поўнач у Гамбортон і непадалёк спыніліся ў рэсорце Віламот Лодж. Скажу шчыра, што гэткіх прыгожых мясьцінаў я яшчэ мала дзе бачыў. Тут адзін зь вялікшых і прыгажэйшых курортаў, а побыт у ім у любую пару году хутка не забываецца.

У пятніцу 17 чырвеня мы ўсе, задаволеныя й удзячныя, вярнуліся назад у Таронта.

**Антось Маркевіч**

# СКОНЧЫЎ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ З ГАНАРОВЫМ АДЗНАЧЭНЬНЕМ



Альгерд Пётра Кажура — сын Марыі й Пётры Кажураў, ведамых Беларусаў із сваёй грамадзкай актыўнасьцю яшчэ ў Нямеччыне, а цяпер у ЗША, перадусім у царкоўным жыцьці БАПЦ. Іхны сын Альгерд Пётра сёлета ў чырвені скончыў Гай Скул у Гайлэнд Парку, Нью Джэрзі, з ганаровым адзначэньнем — National Honor Society. Ён будзе працягваць навуку ў Ратгэрс Унівэрсытэце ў галіне інжынерыі ў Нью Брансьвіку, Нью Джэрзі, атрымаўшы штатавую стыпэндыю. Апрача стыпэндыі, Альгерд Пётра атрымаў і грашовую ўзнагароду за спартовае спаборніцтва імя — Lt. Alfred Poul Memorial Award.

У Гай Скул ён займаў становішча сакратара ў Honor Society, належаў да Tower Society і Boy Scouts of America, дзе прабыў 10 год, працуючы й праходзячы практыкавальныя курсы ў летнім лягеры. Цяпер працуе там-жа дырэктарам інструкцыі вольнага плаваньня.

Што датычыцца да ягонай беларускасьці й беларускай дзейнасьці, дык Альгерд Пётра належыць да Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Нью Джэрзі, у якой займае становішча скарбніка. Прыймае таксама актыўны ўдзел у Танцавальным Гуртку Моладзі, які выступае на беларускіх фэстывалях, што адбываюцца ў Голмндэн Арт Цэнтар у Нью Джэрзі.

Апрача гэтага, Альгерд Пётра годна рэпрэзэнтуе Беларусаў у Гай Скул, уваходзячы ў палеміку зь мясцовай амэрыканскай прэсай у Гайлэнд Парку.

Зычым Альгерду Пётру далейшых посьпехаў на ўнівэрсытэцкіх студыях, а бацьком шмат пацехі ў будучыні.

**Сяргей Пчала**

# УГОДКІ БКА И ДРУГОГА ЎСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ Ў СЫДНЭІ

Дня 31 ліпеня сёлета ў Беларускім Грамадзка-Культурным Клюбе ў Сыднэі адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 33-ім угодкам заснаваньня Беларускае Краёвае Абароны й Другога Ўсебеларускага Кангрэсу. Частка суродзічаў спачатку прысутнічала на ўрачыстай Божай Службе ў праваслаўнай царкве ў Бэнкстаўне. Тут перад абразом нашае патронкі сьв. Эўфрасіні яны шчыра памаліліся за беларускі народ і родную зямлю.

На ўрачыстасьць у залі Клюбу сабралася шмат народу. Рэфэрат на тэму дня прачытаў сп. А. Смаль. Закрануўшы крыху нашае старое гісторыі, прэлегэнт затрымаўся на тых абставінах на Беларусі, пры якіх была арганізаваная Беларуская Краёвая Абарона ды скліканы Кангрэс. Рэфэрат быў старанна й глыбака апрацаваны.

На мастацкую частку праграмы злажыліся дэклямацыі Ніны й Алеся Зуяў і сп. А. Булаўскага. Сп. М. Ціхан і Алесь Зуй зрабілі прыемную неспадзеўку, зайграўшы на скрыпцы й акардыёне „Люблю наш край" і „На выгнаньні".

Сьвяткаваньне, ужо традыцыйна, закончылася агульнай бяседай, якую падрыхтавалі нашыя працавітыя гаспадыні сп-ні О. Тумашэўская, Н. Лужынская, Л. Зуй і М. Зуй, Н. Калпяка ды іншыя, што дапамагалі. Усім ім належыцца вялікая падзяка. Неабходна зазначыць, што сьвяткаваньне было праведзенае ў прыемнай сяброўскай атмасфэры. Вычувалася, што, не зважаючы на ўсе нашыя непаразуменьні, мы — адна беларуская сям'я. Трэба спадзявацца, што дух згоды будзе кіраваць усімі нашымі пачынаньнямі ў будучыні.

**А. К.**

# АГУЛЬНЫ СХОД БАЗА Ў НЬЮ ЁРКУ

У нядзелю 21 жніўня сёлета ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру пры Атлянтык авэню ў Брукліне адбыўся гадавы справаздачна-перавыбарны агульны сход сяброў Акруговага Аддзелу Беларуска- Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку. Сход адчыніў старшыня ўступаючай управы сп. Мікола Кунцэвіч. На старшыню сходу быў выбраны сп. Гіпаліт Паланевіч, на сакратара — сп. Аляксандар Міцкевіч. Пасьля прачытаньня й прыняцьця пратаколу апошняга агульнага сходу адбылася справаздача зь дзейнасьці: старшыні ўправы М. Кунцэвіча, скарбніка В. Міцкевіча й Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня пад кіраўніцтвам сп-ні З. Станкевіч.

Як было сказана ў справаздачы старшыні, управа акругі зладзіла ў справаздачным годзе наступныя сьвяткаваньні й імпрэзы: у ліпені 1976 і ліпені 1977 году прыняла ўдзел у ўрачыстасьці Тыдня Паняволеных Народаў пры статуі Свабоды ў Нью Ёрку; 3-га кастрычніка летась супольна зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва быў зладжаны юбілей 80-ых угодкаў ад нараджэньня кампазытаркі Эльзы Зубковіч, а пазьней Сьвята Дажынкаў; у сьнежані летась былі ўрачыстасьці адзначаныя 56-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня; 20 ліпеня сёлета была зладжаная мясаедная імпрэза Запустаў. У сакавіку акруга БАЗА прыняла ўдзел у сьвяткаваньні ўгодкаў Акту 25 Сакавіка ў гатэлі Білтмор. Старшыня й ягоны заступнік колькі разоў прыймалі ўдзел у паседжаньнях галоўнае ўправы БАЗА.

Зь дзейнасьці ньюёркаўскага Аддзелу Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня трэба назваць: разьвітальную бяседу 28 травеня сёлета для сп-ва Надзі й Аўгена Грушаў з Аўстраліі, працу сяброўак Згуртаваньня ў якасьці настаўнікаў Беларускае Сыботнае Школы й ладжаньне імі школьных імпрэзаў (калядная ялінка, заканчэньне школьнага году). Згуртаваньне дае матарыяльную дапамогу „Жаноцкай Старонцы" ў газэце „Беларус", якая выйшла ўжо чатыры разы.

Пасьля дыскусіі над справаздачамі сход на прапанову Рэвізыйнае Камісіі прызнаў старой управе абсалюторыюм з падзякаю. На агульную просьбу прысутных была перавыбраная папярэдняя ўправа Аддзелу ў наступным складзе: Мікола Кунцэвіч — старшыня, Францішак Бартуль — заступнік старшыні, Зінаіда Станкевіч — культурны рэфэрэнт, Міхась Тулейка — арганізацыйна-імпрэзавы рэфэрэнт, Валянцін Міцкевіч — скарбнік, Аляксандар Міцкевіч — сакратар, Мікола Заморскі — сябра ўправы. Таксама была перавыбраная ў старым складзе Рэвізыйная Камісія пад старшынствам Д-ра Вітаўта Тумаша.

На сходзе былі выбраныя дэлегаты на XVII Кангрэс БАЗА, што скліканы на 3 верасьня сёлета ў Клівэлендзе.

**М. К.**

# ВІТАЕМ МАРЫЮ КАЛЕНІК!

Старшая Сястра Сястрыцтва пры Парахвіі Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Юр'я ў Чыкага Марыя Каленік адзначала 20 жніўня сёлета дзень свайго нараджэньня. З гэтае нагоды Царкоўная Управа Беларускай Праваслаўнай Парахвіі Сьв. Юр'я ў Чыкага складае сваё найлепшае пажаданьне Старшай Сястры Марыі Каленік далейшае плённае дзейнасьці на беларускай царкоўнай ніве, а так-жа ўсякае памысьнасьці й доброга здароўя ў ейным асабістым жыцьці ды заўсёды, як і дасюль, чуцца маладою.

Сто Год Старшай Сястры Марыі Каленік!

**Царкоўная Управа Парахвіі Сьв. Юр'я**

# У ГОНАР СПАДАРСТВА РОЛСАНАЎ

У суботу 6 жніўня сёлета сябры й прыяцелі Сп-ва Янкі й Анюты Ролсанаў у ладнай колькасьці зыйшліся ў прыцаркоўнай залі ў Адэляйдзе, Аўстралія, каб супольна й урачыста адзначыць мяжу ў іхнай жыцьцёвай дарозе — адыход іх на пэнсію. Сталы, багатыя ежай і напіткамі, надавалі ня толькі адмысловы настрой прысутным, але й характарызавалі гаспадарскую здольнасьць і выканаўчасьць сп-ні Анюты Ролсан.

Саршыня нашай Парахвіяльнай Рады К. Станкевіч, адзначыўшы мэту ўрачыстасьці, папрасіў а. Георга багаславіць ежу, пасьля чаго пачалася гучная й вясёлая бяседа. Сьпявалі ім „Многае лета". Спадарства Ролсанаў нашая грамада ведае ад пачатку нашага грамадзкага жыцьця ў Адэляйдзе. Ён заўсёды быў у першых радох нашых пачынаньняў, як на грамадзкай, гэтак і на царкоўнай ніве. На працягу шмат гадоў ён быў сябрам Парахвіяльнай Рады, займаючы становішчы старшыні, публічнага рэфэрэнта ці сакратара. А ў сувязі з тым што ён і наш паважаны паэта, дык віншавалі яго то песьняй, то вершам. І так сп. М. Бурнос і ягоная жонка Соня прапялі дуэтам цудоўную песьню, напісаную сп-няй Соняй Бурнос у гонар Сп-ва Ролсанаў. Зьмест, музыка й выкананьне песьні кранулі да сьлёз сп-ню Ролсан, а гучныя воплескі былі заслужанай падзякай выканаўцам. Віншавалі іх у вершах сп. П. Трысмакоў і сп. В. Зеляneўскі. Айцец Георг у сваім слове адзначыў актыўнасьць Сп-ва Ролсанаў як у грамадзкім, гэтак і ў царкоўным жыцьці. Сп. Янка Ролсан у вершы „Маім гасьцям" дзякаваў усім прысутным і тым, хто ім дапамагаў.

А як урачыста дзялілі двухпавярховы традыцыйны тут торт-каравай, гэтак памастацку зрыхтаваны, што шкада было яго есьці. Унук Сп-ва Ролсанаў Толік з нажом, як рыцар зь мячом, стаяў пры торце й пачынаў дзяліць яго. Сьпявалі й весяліліся аж да поўначы.

Пажадаем Спадарству Ролсанам доўгога жыцьця й заўсёды быць актыўнымі ў нашай грамадзе, якімі мы ведалі іх дагэтуль.

**П. Трысмакоў**

**Аб ходзе продажу ў ЗША трактароў „Беларусь"**, вытворчасьці Менскага трактарнага заводу, зьмясьцілі інфармацыю газэта „Нью Ёрк Таймс" (7. VIII. 77) і тыднёвы часапіс „Тайм" (22. VIII. 1977). Трактары „Беларусь" прадаюцца ў Амэрыцы й Канадзе ад 1975 году. Гэта першы тып савецкае сельскагаспадаркае машыны, што экспартуецца ў ЗША. У пор. Мілўокі створанае сёлета амэрыканска-савецкае агенцтва продажу — „Беларусь Машынэры Інкорпорэйтэд", што мае 68 штатных працаўнікоў і 115 прадаўцоў у 28 штатах Амэрыкі.

# БЕЛАРУСКАЯ МАЁЎКА Ў КАЛІФОРНІІ

У нядзелю 24 ліпеня ў горадзе Гардэн Гроў акругі Орандж у парку адбылася беларуская маёўка, наладжаная каліфарнійскім Аддзелам Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі. Асаблівасьцяй маёўкі было выступленьне ведамага сьпявака Данчыка Андрусышына, які выканаў колькі песьняў на трох мовах — беларускай, украінскай і ангельскай пад свой акампаніямант на гітары. Прысутныя, сярод іх і Украінцы, шчыра ўзнагародзілі таленавітага сьпявака дружнымі воплескамі. Шмат хто зь Беларусаў Каліфорніі мае ўжо кружэлку з 14-цю беларускімі рамансамі й народнымі песьнямі ў выкананьні сп. Андрусышына. Малады тэнар гасьціць даўжэйшы час у Лёс Анджэлесе й праводзіць прыемна час зь беларускай моладзьдзю. Узапраўды вялікая прыемнасьць пазнаць мілага сьпявака. Хочацца надзеіцца, што ён свой талент будзе й далей рупліва разьвіваць.

**Н.**

# ПЕСЬНЯ НА ПЕСЬНЮ

Адказ на пашквіль Рыгора Махавіка „Песьня пра худую авечку" („Голас радзімы" з 30 чырвеня 1977 г.).

**Аўтар**

**

Не які-небудзь „мопсік" плюгавы,
А з разбойнаю пысай „бульдог"
Прафэсыйна авечку лягавы
Пакусаў з галавы і да ног.

І чаго так разьюшыўся карнік?
Неўдацям хіба толькі ягню.
Не схацела авечка ў аўчарні
Прад клыкастым шыю гнуць.

Люба ёй у даліне, зялёнай,
Скубсьці сьвежы духмяны мурог
І прыгладваць ня рэдка з праклёнам
Сабакарні крывавы парог.

Там адночы ёй рэбры лічылі,
Словам крыўды цалялі пад дых...
Але вольнасьці мужныя крыльлі
Не зламалі ў грудзёх маладых.

Ня вылазіць авечка із шкуры,
Ёй зьмяіцца на д'ябал які?
У круці-верцях ды шуры-мурах
Зубы зьелі худыя ваўкі.

Заварылі сабачнікі юху —
Гнаў на бойню авечкі Буян...
Слава Айцу і Сыну і Сьвятому Духу.
Уцякла раба за акіян.

Каралевы жывуць так у казцы,
Як яна ў вольным сьвеце жыве.
Ня стрыгуць ёй дужа па указцы,
Па узьнёслай ня б'юць галаве.

І бляе яна так, як умее:
Не заўсёды на вышняй струне,
Без аглядкі на „ізмы" і ідэі,
Бы жаўнер на халоднай вайне.

Самахоць нейк складаюцца песьні,
Натуральна, бязь лішніх натуг...
Так жуе яшчэ цёплы апрэсьнік,
Крычучы „выганяйце", пастух.

Што ты там ні пляці, чалавеча,
Пра вадзіцу у ступе ды мак...
Лепей быць бараном між авечак,
Як сабакам сярод сабак.

**Міхась Кавыль**

**ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД „БЕЛАРУСА"**

